# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.;** **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; **250 фр.;** 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 28 (362) — Нядзеля, 14 ліпеня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


## Вялікая чыстка ў Крэмлі

Падзеі, што разыгрываліся ў Савецкім Саюзе пасьля XX зьезду партыі, паказвалі, што на савецкім Алімпе адбываецца й далей змаганьне за сталінскую спадчыну і што ў гэтым змаганьні якраз Хрушчоў што раз то ўсё больш высоўваецца наперад. Многія заходнія назіральнікі трапна прадбачвалі, што сталінскую спадчыну пяройме Хрушчоў, ніхто аднак не спадзяваўся, што гэта станецца так хутка й раптоўна. Аказваецца, што закулісы крэмлёўскіх розыгрышаў былі шчыльна заслоненыя, і сьвет ня меў поўнага ўяўленьня аб вайстрыні й станоўчасьці змаганьня ў радох «калектыўнага кіраўніцтва».

Таму для вольнага сьвету было запраўднай сэнсацыяй, калі ў вапошнім дні пленуму цэнтральнага камітэту КП СС 29 чэрвеня былі выкінутыя з цэнтральнага камітэту партыі й ягонага прэзыдыюму, а на наступны дзень таксама із складу савецкага ўраду такія бальшавіцкія тузы, як Молатаў, Кагановіч і Маленкаў. Разам зь імі паляцеў і былы галоўны рэдактар «Праўды» і нядаўны яшчэ міністар замежных справаў Шэпілаў. Апрача вышэй успомненых, быў выкінуты із складу прэзыдыюму цэнтральнага камітэту партыі даўгалетні шэф савецкага плянаваньня й заступнік старшыні Рады міністраў Сабураў, а іншы заступнік старшыні Рады міністраў Пярвухін із сябры прэзыдыюму быў сьпіхнуты на становішча кандыдата ў прэзыдыюм.

Праведзеная Хрушчовам чыстка сваімі разьмерамі ня ўступае ведамай сталінскай чыстцы, ахвярамі якой палі Каменеў, Зіноўеў, Бухарын і іншыя выдатныя бальшавікі. Розьніца між цяперашняй і сталінскімі чысткамі толькі тая, што ахвяры апошняй чысткі пакуль што фізычна ня зьліквідаваныя, а маскоўскае радыё навет здэмэнтавала пашыраныя на Захадзе слухі, што быццам Молатаў знаходзіцца пад дамашнім арыштам. Але ўсе мэтады гэтае чысткі зусім сталінскага тыпу ўлучна з самаабвінавачаньнем вычышчаных. Як падае камунікат пленуму ЦК партыі, пастанова аб выключэньні Молатава, Кагановіча, Маленкава й Шэпілава «была прынятая ўсімі сябрамі Цэнтральнага Камітэту, кандыдатамі Цэнтральнага Камітэту і сябрамі цэнтральнае Рэвізійнае Камісіі пры паўстрыманьні ад голасу таварыша Молатава». З гэтага вынікае, што Маленкаў, Кагановіч і Шэпілаў галасавалі за собскае выключэньне.

Усе галоўныя абвінавачаньні Молатава й ягонае групы знаходзім у ўспомненым камунікаце пленуму ЦК партыі з 29 чэрвеня. У гэтым камунікаце між іншым чытаем:

**«У імкненьні да зьмены палітычнае лініі партыі гэтая група ўжывала супярэчныя партыі разьбівальніцкія мэтады, каб зьмяніць прынцыпы партыйнага кіраўніцтва, выбранага пленумам ЦК КП СС. І гэта ня быў прыпадак. За апошнія тры або чатыры гады, на працягу якіх партыя праводзіла станоўчы курс з мэтаю паправы ўсіх памылак і заганаў, што паўсталі ў сувязі з культам асобы, і вяла пасьпяховае змаганьне супраць рэвізіяністых марксізму-ленінізму як на міжнародным форуме, гэтак і ўнутры краіны — за гады, якія былі выпаўненыя выдатнай працай дзеля выпраўленьня тых скрыўленьняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, якія былі зробленыя ў мінуласьці, — ад гэнага часу сябры цяпер здэмаскаваныя й поўнасьцю скампрамітаваныя варожай партыі групы тварылі, беспасярэдна ці пасярэдна, сталую апазыцыю супраць курсу, устаноўленага XX-ым кангрэсам».**

**«Гэтая група фактычна супраціўлялася прынцыпам ленінскай палітыкі мірнага суіснаваньня між дзяржавамі з рознымі сацыяльнымі сыстэмамі, зьмяншэньню міжнароднага напружаньня й стварэньню прыязных дачыненьняў між Савецкім Саюзам і ўсімі іншымі народамі сьвету. Яны былі супраць пашырэньня правоў савецкіх рэспублік у галіне гаспадарскага й культурнага разьвіцьця і ў галіне правадаўства, а таксама яны былі супраць павялічэньня ролі мясцовых саветаў у выконваньні іхных заданьняў».**

**«Таму варожая партыі група супрацiўлялася моцнаму курсу партыі, які меў на мэце шыбчэйшае разьвіцьцё гаспадаркі й культуры савецкіх рэспублікаў, супраць курсу, які забясьпечваў прынцыпы ленінскай дружбы між народамі нашае краіны».**

Апрача гэтага, група Молатава канкрэтна абвінавачваецца ў тым, што яна супраціўлялася ліквідацыі бюракратычнай сыстэмы плянаваньня, ліквідацыі абавязкавых нарыхтовак калгасаў ужо з канцом бягучага году, тармазіла ўсякія мерапрыемствы, што вялі да злагаджэньня міжнароднага напружаньня і ўмацаваньня міру. Молатаву ў прыватнасьці закідаецца, што зь ягонай вылучнай віны наступіў разрыў Югаславіі з савецкім блёкам, напатыкала на доўгія перашкоды заключэньне мірнага дагавору з Аўстрыяй і зьбліжэньне зь Японіяй. Молатаў абвінавачваецца яшчэ ў тым, што **«ён быў супраць выпрацаваных партыяй прынцыпаў аб магчымасьці ўнікненьня вайны пры сучасных умовах і аб магчымасьцях розных шляхоў пераходу да сацыялізму ў розных краінах, аб неабходнасьці ўзмоцненых кантактаў КПСС з прагрэсыўнымі партыямі вонках СССР».**

Як бачым, Молатаў і ягоная група пастаўленыя ў стан цяжкага татальнага абвінавачаньня за супрацьдзеяньні ўсім прынцыповым мерапрыемствам савецкай нутранай і вонкавай палітыкі. Калі ў камунікаце гэтая група абвінавачвалася ў супраціве й супрацьдзеяньні ў дачыненьні да цяперашняга курсу, дык пару дзён пазьней, у выказваньнях перамогшых савецкіх верхаводаў і прэсы яны ўжо абвінавачваліся ў супрацьпартыйнай і супрацьурадавай змове з мэтаю захапленьня ўлады ў свае рукі.

Крэмлёўскі палацовы пераварот пасьпяхова ўдаўся галоўна таму, што савецкая армія станула на баку Хрушчова, а міністар абароны СССР маршал Жукаў увайшоў цяпер у склад прэзыдыюму ЦК партыі. Ува ўсім Савецкам Саюзе адбываюцца цяпер мітынгі, на якіх аднагодна й з энтузіязмам адобрываецца праведзеная Хрушчовым чыстка. Няма патрэбы сумлявацца ў шчырасьці гэтага энтузіязму масаў, для якіх упадак кажнага савецкага верхавода дае некаторыя спадзяваньні на лепшае і якія з такім-жа задаваленьнем віталі-б і ўпадак ня менш зьненавіджанага імі Хрушчова.

Найважнейшым для нас пытаньнем ёсьць тое, ці і якія істотныя зьмены як у нутранай, гэтак і ў вонкавай палітыцы Савецкага Саюзу прынясуць апошнія выпадкі ў Крэмлі?

Калі-б верыць у шчырасьць словаў Хрушчова аб мэтах ім задуманых і праводжаных мерапрыемстваў і рэформаў, за супрацьдзеяньне якім зламалі галовы Молатаў, Маленкаў, Кагановіч і Шэпілаў, дык узапраўды цяпер трэба было-б чакаць грунтоўных і шырокіх зьменаў на лепшае ў кажнай галіне савецкага жыцьця, як у нутранай, гэтак і ў вонкавай палітыцы, а таксама, — і гэта для нас найважней — у галіне нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюзу. Але для гэтае веры няма, нажаль, найменшых падставаў, затое ёсьць шмат дадзеных для таго, што ніякіх прынцыповых і трывалкіх зьменаў чакаць ня прыходзіцца.

Палітычную ліквідацыю чатырох савецкіх кіраўнікоў прыходзіцца разглядаць, як вынік нутранага партыйнага змаганьня за верхаводзтва й шуканьня ахвярных казлоў, на якіх трэба было зваліць віну за ўсе няўдачы нутранай і замежнай палітыкі. Між групай

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## На службе ў савецкіх людаловаў

Ворган усходнябэрлінскага камітэту «За возвращение на родину» ў нумары 44 за чэрвень 1957 г. зьмясьціў наступнае паведамленьне:

**«Даведаўшыся з савецкай прэсы аб тым, што сярод нашых суродзічаў, гаруючых за мяжой, ёсьць нямала Беларусаў, два выдатныя грамадзкія дзеячы Беларускай ССР — паэта Максім Танк і народны артысты Саюзу ССР — Рыгор Раманавіч Шырма выказалі жаданьне прыняць актыўны ўдзел у працы нашага Камітэту і далі згоду быць яго сталымі сябрамі»,** Там-жа зьмешчаныя біяграфіі Танка й Шырмы, а так-жа звароты абодвых да беларускіх эмігрантаў з заклікамі вяртацца ў Савецкі Саюз.

Прыдумана хітра, цынічна й подла!

Хітра таму, што нельга было ў цэлай БССР знайсьці больш адпаведных асоб для незавіднай ролі заганятых у «савецкі рай», чымся Максім Танк і Рыгор Шырма. Абодвы цешацца яшчэ й сяньня не малым аўтарытэтам сярод беларускіх эмігрантаў, асабліва з Заходняй Беларусі і асабліва тых, што іх асабіста знаілі й зь імі супрацоўнічалі. Не малы аўтарытэт маюць яны хіба й на бацькаўшчыне.

У найбольш чорныя трыццатыя гады польскае санацыйнае рэакцыі ў Заходняй Беларусі й даканчваньня нішчэньня ўсіх праяваў беларускага нацыянальнага жыцьця Шырма й Танк належалі да тэй невялічкай жменькі актыўных беларускіх інтэлігентаў, якія не зьнявэрыліся й не апусьцілі рук у роспачы, як зрабілі ў той час многія, але вытрывала рабілі, што маглі, каб падтрымаць пульсаваньне беларускага нацыянальнага жыцьця. Танк рабіў гэта сваімі высока таленавітымі й глыбока ідэйнымі вершамі, Шырма сваей нацыянальнай культурнай дзейнасьцяй, галоўна беларускай песьняй, як яе няўтомны зьбіральнік, апрацавальнік і выканальнік.

Абодвы яны, асабліва Танк, былі да некаторай меры зьвязаныя або мелі толькі кантакт з падпольным камуністычным рухам у Заходняй Беларусі. Гэтаму, аднак, нельга дзівіцца й рабіць з гэтага некарысных для іх вывадаў, бо гэта быў час, калі, бароняючыся перад татальным польскім наступам, часта прыходзілася выкарыстоўваць і камуністычны рух для сваей чыста нацыянальнай дзейнасьці. Варта прыпомніць, што навет найбольш антыкамуністычная ў сваіх ідэйных прынцыпах беларуская палітычная партыя — Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, кіраваная ідэйнымі й рэлігійнымі беларускімі ксяндзамі на чале з ксяндзом Адамам Станкевічам, у тыя часы пайшла на супрацоўніцтва з бальшавіцкім народным фронтам, выкарыстоўваючы яго для беларускай нацыянальнай справы. Праўда, у зьмешчанай у міхайлаўскім воргане Танкавай біяграфіі гаворыцца, што ён быў актыўным сябрам камсамолу Заходняй Беларусі і падпольным інструктарам ягонага ЦК. Гэтае бальшавіцкае сьветчаньне ня мусіць быць уважанае за абавязкава праўдзівае, а для тых, што Танка ў той час блізка знаілі, выдаецца мала праўдападобным.

Ня гледзячы тады на некаторыя кантакты з падпольным камуністычным рухам, дзейнасьць і Танка, і Шырмы была наскрозь нацыянальная і для беларускае справы карысная. З асаблівым націскам сяньня трэба падчыркнуць наступнае. Калі ў 1939 годзе Заходняя Беларусь была занятая бальшавікамі, дык людзі, што раней выкарыстоўвалі бальшавіцкі рух для чыста нацыянальных беларускіх мэтаў, былі арыштоўваныя й бязьлітасна зьнішчаныя. Былі пакінутыя толькі тыя, што здабылі асабліва вялікі аўтарытэт сярод народу. Іх бальшавікі пастанавілі выкарыстаць для ўмацаваньня сваей пазыцыі сярод насельніцтва Заходняй Беларусі. Да гэтых апошніх належылі Танк і Шырма.

Аўтар гэтых радкоў быў увесь час у блізкай прыяцельскай сувязі з апошнімі, цесна зь імі супрацоўнічаў, асабліва з Танкам, выконваючы ролю беспасярэднага крытыка й дарадніка ў ягонай паэтычнай дзейнасьці. Кажны сьвежа напісаны свой верш Танк звычайна прыносіў да мяне, чытаў яго, уважліва слухаў маіх заўвагаў і толькі пасьля гэтага, зрабіўшы тыя ці іншыя зьмены, аддаваў яго ў друк. Таму мне беспасярэдна ведама, што ў сваіх перакананьнях ніводзін зь іх камуністым савецкага тыпу ня быў. Калі-ж у 1939 годзе яны беспасярэдна стыкнуліся з бальшавізмам, ня скрывалі перада мною й перад многімі іншымі свае нэгатыўнае ацэны яго й глыбокага незадаваленьня з бальшавіцкай практыкі ў дачыненьні да Беларусаў. Вось чаму гэтыя людзі, ня гледзячы на іхную навонкі прабальшавіцкую актыўнасьць, пасьля працягненьня «брацкае рукі» Заходняй Беларусі захавалі свой ранейшы аўтарытэт і пашану.

Вялікі аўтарытэт і прызнаньне яны адразу здабылі і сярод Беларусаў Усходняе Беларусі. Іхныя імёны ня былі сплямленыя вымушаным выслужваньнем сталінскаму бальшавізму, як імёны многіх у БССР, наадварот, у вачох шырокіх беларускіх колаў Усходняе Беларусі яны выглядалі, як мучанікі за беларускую нацыянальную ідэю ў Польшчы й нязломныя за яе змагары. Трэба думаць, што такі пагляд на ролю абодвых астаўся там і сяньня, асабліва ў дачыненьні да Шырмы, бо Танк, як найвыдатнейшы сучасны беларускі паэта, быў змушаны, нажаль, зыйсьці на казённы бальшавіцкі шлях.

У кажным выпадку, выбар іх абодвых, як памагатых савецкім людаловам, быў асабліва трапны. Ані Броўка, ні Куляшоў, ні Лынькоў ці Крапіва не падходзілі-б для гэтай ролі, як Танк і Шырма, да якіх, дзякуючы ўспомненым акалічнасьцям, ня прыліпла яшчэ кляймо бальшавіцкіх палітрукоў у беларускай культурнай дзейнасьці.

**Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## За мінулы тыдзень

**(пс)** Апошняя, пакульшто бяскрывавая, чыстка на маскоўскім Алімпе, бязсумлеўна была найважнейшай падзеяй ня толькі мінулага тыдня, але і апошняга паўгодзьдзя. Мікіта Хрушчоў паказаў нязвычайную сілу, адным махам вырываючы з карэньнямі такіх дубоў камунізму, як Молатаў, Кагановіч і Маленкоў. Пры гэтым варта адцеміць, што Молатаў і Кагановіч — апошнія «ленінскай гвардыі» грэнадзеры, якія выцалелі з сталінскай крывавай пургі, калі ня лічыць безкалёрнага, бязвольнага Варашылава — халуя ўсіх моцных у Крамлі.

Характэрнае зьявішча: сталінскі гадунец Хрушчоў пад лёзунгам павароту да «ленінскіх прынцыпаў» даразае ленінцаў добра вывучанымі мэтадамі Сталіна. Далей. Абвінавачваючы вычышчаных сатрапаў у тым, што яны быццамбы перашкаджаюць дэмакратызацыі Савецкага Саюзу, Хрушчоў ліквідуе іх найменш дэмакратычным спосабам. Ня толькі 200 мільённае грамадзтва Савецкага Саюзу, але і 7 мільёнаў партыйцаў даведаліся аб факце па факце. Як бачым, фактычна абгалёканая пасьлясталінская «дэмакратызацыя» пасунулася вельмі-ж няшмат, бо з адзінаўладзтва тырана да ўлады малой кучкі сатрапаў на партыйнай верхавіне.

Але ўжо найбольш пікантнай зьяўляецца дэталь у афіцыяльным паведамленьні бальшавіцкай прапаганды, што пастанова ЦК была прынята «аднагалосна» і толькі адзін Молатаў паўстрымаўся ад галасаваньня. З гэтага вынікае, што Кагановіч, Маленкоў і Шэпілаў галасавалі за тым, каб іх выкінулі з прэзыдыюму і ЦК і за ўсімі далейшымі наступствамі, зьвязанымі з гэтым. Штось такое можа здарацца толькі ў Савецкім Саюзе...

Далейшая акцыя Хрушчова і супалкі паказвае, што гэтым справа ня кончыцца. З кажным днём узрастаюць абвінавачваньні вычышчаных чатырох верхаводаў, а перадусім Маленкова. У сваім апошнім выступленьні ў Ленінградзе Хрушчоў выразна абвінавачваў Маленкова, як галоўнага ініцыятара г. зв. «ленінградзкай справы», падчас якой у 1949-м годзе, пасьля сьмерці Жданава былі зьліквідаваныя ягоныя прыхільнікі Вазьнесенскі, Кузьняцоў, Папоў і іншыя. Варта прыгадаць, што за гэтую справу ў 54-м годзе былі расстраляныя міністар бясьпекі Абакумаў з таварышамі. Гэта справа ставілася між іншымі ў абвінавачаньне Бэрыі. Як бачым, фон справы крывавы і нічога добрага не варожыць Маленкову.

Каб сыпнуць пяском у вочы савецкаму грамадзтву і ўсяму сьвету, крамлёўскія разрахункі адбываюцца пад знакам дэмакратызацыі й міралюбнасьці. Такім чынам дэмагагічна тлумачыцца, што вычышчаныя сатрапы перашкаджалі дэмакратызацыі, а Молатаў быў найбольшай перашкодай на шляху да зьменшаньня міжнароднага напружаньня і наладжаньня сужыцьця з вольным сьветам. Рэч зразумелая — гэта блісьня на наіўных, якіх, нажаль, хапае хоць адбаўляй. Што-ж, дурната вечная як сьвет...

Савецкія сатрапы ўжо так нахабна кпяць з заходніх палітыкаў, што навет не натужваюцца на камуфляж прызваітасьці. У гэтых самых газэтах, у якіх было зьмешчанае хрушчоўскае абвінавачаньне Молатава ў перашкаджаньні ў наладжаньні добрых дачыненьняў з Захадам, былі й цьверджаньні, што Ўол Стрыт, Дальлес, манапалістыя і чорная капіталістычная рэакцыя нівэчылі й нівэчаць усе міралюбныя імкненьні савецкага ўраду. Адно з другім ня вельмі лучыцца, але гэта найменш турбуе маскоўскіх валадароў. На Захадзе так шмат людзей, якія хочуць разглядаць свае набожныя пажаданьні як рачаіснасьць. Дык і цяпер у выказваньнях шмат якіх палітыкаў і публіцыстых гучыць аптымістычная думка: «Міралюбны Хрушчоў перамог агрэсыўных сталінцаў, цяпер можна спадзявацца, што пачнецца шчасьлівая эпоха пажаданага суіснаваньня...»

Што-ж да дэмакратычнасьці Хрушчова, дык мінулае гэтага старога сатрапа нічым не здраджае ягоных нахілаў да дэмакратыі. Таму ня думаем, што ў 65-м годзе жыцьця Мікіта зьмяніўся на 180 градусаў. У гэтым веку мутацыі ня здараюцца і не растуць зубы мудрасьці...

А вось маленькая ілюстрацыя хрушчоўскай дэмакратычнасьці:

Як падае добра паінфармаваны »Манчэстэр Гардыян», нядаўна на сходзе савецкіх пісьменьнікаў Хрушчоў сказаў, што калі-б перад рэвалюцыяй вугорскі ўрад расстраляў двух выдатных пісьменьнікаў, пазьнейшае палажэньне было-б напалавіну менш паважным. Пры гэтым Хрушчоў пацешыў савецкіх пісьменьнікаў, што калі штось падобнае здарыцца ў Савецкім Саюзе, яму г. зн. Хрушчову «не задрыжыць рука».

Гэта яму паверым на слова...

# Вялікая чыстка ў Крэмлі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Хрушчова і групай Молатава ня было й няма навет такіх ідэялягічных разыходжаньняў, якія былі між Сталінам і зьліквідаванай ім партыйнай апазыцыяй. Калі-ж і былі якія разыходжаньні, дык датычылі яны вылучна тактыкі, а ня прынцыпаў.

Хрушчоў такі самы бальшавік і таго самага тыпу, што і Молатаў. У сваіх абвінавачаньнях молатаўскай апазыцыі Хрушчоў клапоціцца аб палепшаньні лёсу працоўных, але ніхто іншы, як ён сам, быў ініцыятарам найбольш антынародных мерапрыемстваў, як будаваньне аграгарадоў, узбуйненьне калгасаў, пазбаўленьне калгасьнікаў прысялібных надзелаў або высыланьне на цаліну. Цяпер Хрушчоў выступае за разшырэньне правоў саюзных рэспублік і разьвіцьцё нацыянальных культураў нерасейскіх народаў. Якія ягоныя запраўдныя клопаты аб нерасейскіх народах, паказалі перадваенныя й ваенныя гады, калі ён займаў становішча першага сакратара камуністычнай партыі Украіны, старшыні Саўнаркому Украіны й сябры ваеннага савету аднаго з украінскіх фронтаў. За гэтую ягоную дзейнасьць на Ўкраіне народ яму прысвоіў поўнасьцю заслужаны, хоць і не пачэсны тытул ката Украіны. На словах Хрушчоў абвінавачвае Молатава, што ён выступаў супраць прынцыпу розных шляхоў да сацыялізму ў розных народаў. Але не абвінавачвае Молатава за крывавае здушэньне вугоркага паўстаньня. Значыцца, гэтае здушэньне было правільнае. Бадай усе абвінавачаньні, пастаўленыя супраць Молатава, Маленкава, Кагановіча й Шэпілава, з тым самым посьпехам маглі-б быць высунутыя й супраць Хрушчова.

Дык калі нельга чакаць прынцыповых і трывалкіх зьменаў у савецкай палітыцы, трэба ўсё-ж спадзявацца некаторых зьменаў тактычнага характару і галоўна ў замежнай палітыцы. Такія зьмены, як часовае й пераходнае згладжэньне курсу, выкліканае патрэбамі замацаваньня здабытае Хрушчовам пазыцыі, выдаюцца навет няўхільнымі. У нутраным жыцьці краіны зьмены гэтыя могуць быць мінімальныя. Прыкладам, хрушчоўская інтэрпрэтацыя рэформы кіраўніцтва прамысловасьцю, як пашырэньне правоў нацыянальных рэспублік, у запраўднасьці гэтыя правы звужае, а не расшырае. Дык і цяпер нутраныя зьмены скарэй за ўсё абмяжуюцца да аднае прапагандовае фразэалёгіі.

Затое ў галіне замежнае палітыкі гэтыя зьмены могуць быць шырэйшыя. Перш за ўсё цяпер, здаецца, наступяць усе перадумовы для павароту цітаўскай Югаславіі ў савецкі блёк і тым самым да ўзмацненьня апошняга. Дасягненьні польскага нацыяналкамунізму ў кастрычніку мінулага году, потым паступова звужаныя й напасьледак паважна загрожаныя, могуць цяпер аказацца больш трывалкімі з тэндэнцыямі й магчымасьцямі іхняга пашырэньня. Крэмлёўскія падзеі могуць таксама ўзмоцніць пазыцыі камуністычных партыяў у вольным сьвеце, значна захістаныя савецкай збройнай інтэрвэнцыяй у Вугоршчыне, бо за ўсе няўдачы цяпер лёгка можна будзе зваліць віну на аднаго Молатава.

Як вынікае з характару абвінавачаньняў Молатава, цяпер пачнецца, прынамся на нейкі час, узмоцнены курс палітыкі суіснаваньня, які ў сваю чарту можа прытупіць чуйнасьць Захаду на камуністычную небясьпеку й разброіць яго маральна. Праўда, першая рэакцыя дзяржаўных мужоў і вядучых палітыкаў Захаду на крэмлёўскія падзеі была тая, што словы бальшавіцкіх верхаводаў ня маюць для іх ніякага значэньня, а толькі канкрэтныя чыны могуць іх пераканаць аб добрай волі савецкіх кіраўнікоў. Але ня трэба забывацца, што Захад у дасюлешніх сваіх дачыненьнях з Савецкім Саюзам задавольваўся, нажаль, толькі словамі. Такая небясьпека існуе й сяньня.

Такім чынам цаной палітычнай ліквідацыі некалькіх бальшавіцкіх вэрхаводаў Саветы могуць мець значныя ўдачы на адрэзку замежнае палітыкі.

**Язэп Каранеўскі**

# На службе ў савецкіх людаловаў

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Але, як мы адцемілі напачатку, гэты выбар ёсьць ня толькі трапны, але таксама цынічны й подлы. Ніхто хіба не паверыць, што абодвы яны, як паведамляе «За возвращение на родину», узапраўды **«выказалі жаданьне** прыняць актыўны ўдзел у рабоце» міхайлаўскага камітэту і **«далі згоду** быць яго сталымі сябрамі». Ня можа быць найменшага сумлеву, што гэтае «жаданьне» й «згода» была ім накінутая. Нельга паверыць у шчырасьць стандартных заклікаў Танка, якія нічым, навет і сваей фразэалёгіяй ня розьняцца ад усіх іншых падобных заклікаў усходнябэрлінскае газэткі: **«I кім-бы ты ня быў, якую-б не адчуваў за сабой віну, калі ўсё даравала табе радзіма, нельга не адклікнуцца на яе голас, як на голас сваей маткі».** Хвальшывай нотай гучаць казённыя словы і «дзядзькі Шырмы», як мы яго калісьці называлі, калі ён зьвяртаецца да нашых суродзічаў у вольным сьвеце: **«Мы, савецкія людзі, хочым бачыць вас у радох нашай моладзі ў слаўным паходзе да сьветлых вышыняў камунізму. Мы, савецкія людзі, заклікаем вас ня траціць сваіх маладых сілаў і здольнасьцяў на чужыне: вяртайцеся на Радзіму, якая вас спаткае, як родных дзяцей, акружыць цяплом і заботай».**

Адным з найбольш нялюдзкіх і нявымоўна подлых мэтадаў бальшавізму ёсьць тое, што ён змагаецца з варожымі яму народнымі сіламі пры помачы найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў паасобных народаў, выкарыстоўваючы іх у якасьці найбольш войстрага аружжа ў дасягненьні сваіх антынародных мэтаў. Гэты бальшавіцкі мэтад тарнуецца ў неабмежаванай шырыні. Гэтак у змаганьні зь беларускім нацыянальным рухам бальшавікі не паўстрымаліся перад выкарыстаньнем найвялікшага змагара й ідэялёга гэтага руху — Янкі Купалы. Для гэтае праступнае мэты яны выкарысталі й Якуба Коласа, змусіўшы яго аплёўваць усё тое, што для народу й яго самога было сьвятым. Гэткім спосабам яны выкарыстоўвалі й выкарыстоўваюць усіх іншых выдатных Беларусаў, якія могуць мець уплыў на народныя масы.

Ідучы добра выпрабаным шляхам, цяпер выкарыстоўваюць яны аўтарытэт Шырмы й Танка ў змаганьні зь беларускай палітычнай эміграцыяй. Заслужаныя ў недалёкай мінуласьці гэтыя людзі цяпер змушаныя выконваць агідную ролю савецкіх людаловаў.

Нам цяжка асуджаць Шырму й Танка за іхны пастунак. Мы ні на хвіліну ня сумляваемся ў тым, што гэты брыдкі паступак быў вымушаны.

Разам з усім гэтым для нас ёсьць важным і вымоўным факт, што бальшавікі прыдаюць такое вялікае значэньне якраз беларускай эміграцыі. Спасярод выдатных і аўтарытэтных прадстаўнікоў іншых народаў нікога не ўцягнулі дагэтуль у ўсходнябэрлінскі камітэт, апрача толькі Беларусаў. Гэта сьветчыць, што асабліва беларуская эміграцыя, хаця колькасна й меншая за іншыя, сваей умелай і ахвярнай дзейнасьцяй прыносіць бальшавіком нямала шкоды. А гэта найлепшы для нас довад, што мы, апынуўшыся ў вольным сьвеце, часу дарма ня трацім і ў меру нашых сілаў і магчымасьцяў, нярэдка звыш сілаў і магчымасьцяў, сумленна сплачваем свой доўг перад народам і Бацькаўшчынай.

**Ст. Крушыніч**

## *У паняволенай Беларусі*

### ПУСТАЗЕЛЬЛЕ РОЗУМУ...

«Калі сейбіт засявае вясной добра запраўленую ўгнаеньнямі глебу, ён марыць сабраць восеньню добры ўраджай. Закончана сяўба, няпрыкметна праляцеў час, і дружныя, густыя, роўныя ўсходы зялёным аксамітам пакрылі шырокія, раздольныя палі. Радуецца сэрца сельскага працаўніка!» Вось гэтакай лірыкай пачынаецца зусім нялірычны артыкул у «Чырвонай Зьмене» за 13-ае чэрвеня — **«Пустазельле — з поля вон»!** У чым-жа справа? Справа ў тым, што калгасьнікі ня хочуць працаваць і, бязумоўна, «сэрца сельскага працаўніка» ніколі ў калгасах ня радавалася і ня радуецца, як напрыклад, у калгасьнікаў сельгасарцелі імя Чкалава Глускага раёну. Яны, як гаворыць «Чырвоная Зьмена», «у мінулым годзе не сабралі жаданага ўраджаю яравых збожжавых толькі з-за таго, што ня была праведзена праполка пасеваў. Асабліва бясклопатна ў калгасе аднесьліся да новай каштоўнай культуры — кукурузы». Разам з кукурузай расло і пустазельле, якое неўзабаве зусім заглушыла кукурузу, ў выніку чаго, як скардзіцца газэта «грамадзкая жывёла не атрымала каштоўнага сіласу». Як бачым, у гэтым раёне не радуецца ні сэрца чалавека, ні сэрца грамадзкай савецкай жывёлы...

Далей у артыкуле гаворыцца: «Няўдачу, якая была вынікам бесклапотнасьці кіраўнікоў калгасу, выкарысталі скэптыкі і малаверы. Яны пачалі даказваць, што, моў, на нашых землях кукуруза ня можа расьці». А хто-ж гэта такія гэтыя скэптыкі? Скэптыкі — гэта тыя самыя калгасьнікі Глускага раёну, якія ведаюць, што праца на калгасных палёх — марная трата часу. Чытаючы гэты артыкул аб кукурузе і пустазельлі, так і хочацца сказаць: вінаваты не калгасьнікі і навет не пустазельле палёў, а пустазельле хрушчоўскага розуму, якое заглушае і забівае ініцыятыву беларускага сялянства.

**У. Д.**

# Небясьпечная прынада

**Ад Рэд.** Апошнім часам савецкія дыктатары ўзмоцнілі кампанію за забарону атамных выпрабаваньняў, закідаючы вольны сьвет штораз новымі прапановамі ў гэтым кірунку. Некаторыя зь іх вельмі прынадныя, і на першы пагляд могуць здацца шчырымі.

Ведамы амэрыканскі грамадзкі дзеяч Спэнэл папераджае грамадзкую думку перад гэтай «небясьпечнай прынадай». Ніжэй зьмяшчаем вытрымкі зь ягонага артыкулу, зьмешчанага ў газэце «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн»».

✻

Крамлёўскія валадары не закідаюць сваіх мэтаў. I калі мы дамося сябе абмануць, дык можам заплаціць за гэта сваёй собскай свабодай і свабодай нашых хаўрусьнікаў. Гэтым разам яны ўжываюць як прынаду «раззбраеньне», пачынаючы забаронай атамных выпрабаваньняў.

Іхнія прапановы суправаджаюцца жахлівымі, пагрозьлівымі савецкімі атамнымі выпрабаваньнямі; яны таксама служаць за дымавую заслону, пушчаную якраз перад аднагалосным асуджэньнем Арганізацыяй Задзіночаных Нацыяў савецкага насільства ў Вугоршчыне. Гэтага ўжо павінна хіба хапіць, каб здыскрэдытаваць іхныя апошнія «мірныя» ходы. Але заміж таго мы бачым, што вядучыя дзяржаўныя мужы ў Задзіночаных Штатах, Ангельшчыне й іншых краёх бяруцца на гэтую небясьпечную прынаду!

На працягу 40 гадоў чырвоныя панявольнікі запярэчвалі цывілізаванаму пастуляту Лінкольна: «Нельга абманваць усіх людзей увесь час». Яны былі здольныя на гэта пры дапамозе бесьперапынных катаваньняў, тэрору й забойстваў у сваёй собскай няшчаснай дзяржаве; пры дапамозе бесьперапыннай падрыўной работы, канспірацыі й зрады вонках яе.

Нахабнасьць Масквы распухае пасьля кажнае чарговае дыпляматычнае перамогі — найбольш зза палітычнае сьлепаты Захаду. Чырвоныя цынікі ня верáць навет у наш здаровы розум. Іхняя пагарда да нас ня знае межаў. Яны з усьмешкай прынаджваюць нас «мірам» і «раззбраеньнем», і ў той-жа час яны даюць дыктатару Насэру тры падводныя лодкі, каб забясьпечыць далейшыя забурэньні й непаладкі на Блізкім Усходзе! I гэта яшчэ ня ўсё. Каб падчыркнуць сваю цёмную ролю ў тэй частцы сьвету, яны — першы раз у гісторыі СССР — паслалі ваенныя караблі праз Суэзкі канал у затоку Акаба.

✫

Савецкі Саюз мае найбольшую армію ў сьвеце, найбольшую армію ў мірны час у гісторыі сьвету, забясьпечаную міжкантынэнтальнымі бамбавікамі, зьнішчальнікамі й мадэрнай зброяй. Ён мае больш за 500 падводных лодак, бальшыня зь якіх здольная выстрэльваць ракеты з атамнымі зарадамі — больш як два разы столькі, колькі мае рэшта сьвету. Да гэтага, у атамным узбраеньні ён займае другое месца пасьля Амэрыкі.

Супрацьвагай да гэтага гіганцкага чырвонага патэнцыялу зьяўляецца магутнасьць Задзіночаных Штатаў і іхных хаўрусьнікаў, з атамнай ударнай сілай. Якраз гэтую перавагу ў атамным узбраеньні імкнецца ўсімі спосабамі зьнэўтралізаваць Савецкі Саюз, бо гэтая зброя, асабліва міжкантынэнтальная, зачыняе шлях камуністычнай дамінацыі сьвету — гэтая зброя, а таксама актыўная еднасьць вольнага сьвету, якое бальшавікі баяцца ў такой-жа меры.

Крэмль добра ўсьвядамляе сабе, што ягоная другарадная пазыцыя з гледзішча атамнага ўзброеньня дае й далей перавагу Амэрыцы ў выпадку ягонага паходу супраць сьвету, ня гледзячы на ягоную перавагу ў людзёх, танках, самалётах і падводных лодках. Ён мае таксама прычыну баяцца, што Ангельшчына й Францыя — цэнтр краінаў-сяброў Эўратаму — стануцца атамнай магутнасьцяй.

Коратка кажучы, Хрушчоў і супалка перакананыя, што з гледзішча атаму, час працуе супраць іх — з прычыны йснуючае перавагі і ўзрастаючае прамысловае магутнасьці Задзіночаных Штатаў. Яшчэ больш няпрыемнай з савецкага гледзішча зьяўляецца амэрыканская пастанова пасьля вугорскае расправы забясьпечыць НАТО й найбліжэйшых хаўрусьнікаў у вольным сьвеце атамнай зброяй. Ня дзіва, што Хрушчоў і Булганін адказалі на гэта пагрозамі Ангельшчыне, Францыі й паўночным краінам; на шчасьце, іхнія пагрозы нікога не запалохалі.

✫

Мы пачынаем разумець, чаму гарачкавыя манэўры Масквы ў пытаньні раззбраеньня абмяжоўваюцца да атаму, пачынаючы з забароны атамных выпрабаваньняў. Яны даволі пераконваючыя — у час, калі страх перад заражэньнем паветра аваладвае штораз большыя колы.

Няўжо Савецкі Саюз выпрацаваў атамную бомбу, выпрабаваньні якое **нельга выкрыць? У** такім выпадку, ня гледзячы на тое, якая-б сыстэма інспэкцыі ні была прынятая, забарона атам-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

**Др. Я. Станкевіч** 3)

# Беларускія гаспадары (вялікія князі), што не хацелі гаспадарстваваць у чужых

Пэўне гэтыя нараканьні ведаў не адзін князь Зяслаў, але чулі пра іх і некаторыя іншыя Кіяўляне. Пакуль у Кіеве было ўсё добра, дык гэтыя чуткі ня мелі значэньня. Але вось узьнялася вайна з Полаўцамі (турска-татарскае плямя, што качавала ў сьцяпох). Зяслаў быў чыста разьбіты, сам Кіеў апынуўся пад пагрозаю, што яго возьмуць Полаўцы. Кіяўляне зыбраліся на веча і зь веча пайшлі да князя, дамагаючыся зброі і коні, каб самым бараніцца ад Полаўцаў; але князь ім не давяраў і адмовіў. Пачаліся цяпер гаворкі й крыкі, што Бог насылае на Русь паганых, зн. Полаўцаў, за ўзрушэньне прысягі рускім князям. Гэта перайшло ў жаданьне паправіць грэх, вызваліўшы з турмы Ўсяслава. Дружыньнікі Зяслававы радзілі яму сьцерагчы Ўсяслава; некаторыя зь іх радзілі хітрыкамі паклікаць Усяслава да аконца ў цямніцы і забіць мячом.

Але было ўжо позна. Натоўп йшоў да турмы, выламіў дзьверы і выпусьціў Усяслава ды прасіў яго быць кіеўскім князем, спадзяючыся, што ён абароне Русь, зн. Кіеўшчыну, ад Полаўцаў. Гэта было на Узьвіжаньне. Летапісец піша, што, вызваліўшыся з турмы ў гэты дзень, Усяслаў лёгка ўздыхнуў і сказаў: «О Крыжу чэсны, дзеля таго, што я табе верыў, ты выбавіў мяне ад рову гэтага». Летапісец дадае: «Бог-жа паказаў сілу крыжавую... зямлі Рускай, каб не пераступалі чэснага крыжа, цалаваўшы яго»[15]) (прысягалі, цалуючы крыж).

Вызваленьню Ўсяслава памагло й тое, што ён быў ведамы як прыяцель веча. Свае паходы ён рабіў у згодзе з полацкім вечам, і войска ягонае складалася толькі ў малой меры з дружыны, а галоўна із звычайных Палачан.

Летапісец ня кажа, ці, стаўшыся кіеўскім князем, ваяваў Усяслаў із Полаўцамі, ці мо яны ўцяклі ад аднаго імені ягонага; відаць толькі зь летапісу, што ў часе княжэньня Ўсяслававага ў Кіеве Кіеўшчына была бясьпечная ад Полаўцаў.

Цікаўна, што будучы князем у Кіеве, Усяслаў даведаўся да Цьмутаракані, да гэтае далёкае северска-беларускае калёніі.

Калі Ўсяслава народ выпусьціў з турмы, то Кіеўскі князь Зяслаў із сваёй дружынаю і братам Усеваладам уцёк да Польшчы. У 1069 г., Зяслаў із польскім каралём Балеславам і польскім войскам пайшоў на Кіеў, каб зьвярнуць сабе яго. Кіеўскае войска на чале з Усяславам выступіла супроць. Але ночы Усяслаў тайком ад Кіяўлян пакінуў іх у Белгародзе, а сам адзін паехаў да Полацку. Пішучы пра гэта, украінскі гісторык М. Грушеўскі завець Усяслава «полацкі характэрнік», зн. чалавек із самастойным арыгінальным характарам.

Якое вялікае было значэньне Усяслава, відаць із таго, што, пасьля ягонага ад'езду, Кіяўляне ня мелі ніякае надзеі на перамогу. Яны зьвярнуліся да Кіева і паслалі сказаць братом Зяслававым, Сьвятаславу і Ўсеваладу: Што мы зрабілі, прагналі свайго князя, а ён цяпер вядзець на нас Лядзкую зямлю, ідзеце да нас княжыць; а калі ня прыдзеце, дык мы спалім места, а самі пойдзем да грэцкае зямлі. Сьвятаслаў супакоіў іх, кажучы, што яны пашлюць ганца да Зяслава з вымаганьнем, каб ён ішоў да Кіева з малой колькасьцяй людзёў, бо Усяслаў выехаў і нямаш яму праціўнікаў. Зяслаў згадзіўся на гэта. Зрабіў, адылі, ён падобна, як із прысягаю, данай у сваім часе Усяславу, наймя ён пакінуў Палякоў, узяўшы іх троху, але наперад паслаў із войскам сына свайго Мсьціслава, каторы перабіў і асьляпіў шмат Кіяўлян за зраду ягонаму бацьку. У вялікай небясьпечнасьці быў і сьв. Антон, на каторага, кажа летапісец, Зяслаў злаваў за Усяслава; але яго ўратаваў северскі князь Сьвятаслаў, ночы ўзяўшы да сябе. З гэтага відаць, што сьв. Антон быў досыць дзейны ў вызваленьню Ўсяслава.

Зьвярнуўшыся да Полацку, Усяслаў ў тым-жа годзе пашоў вайною на Ноўгарад.

Быў Усяслаў і ўзумелы палітык, а рупіўся ён ня толькі пра Полаччыну і пра захоплены Ноўгарадам Пскоў, але й пра іншыя беларускія землі. Гэтак, ён, відавочна, паразумеўся із северска-беларускім князем Сьвятаславам і гэты зьвярнуўся ў 1073 г. да пераяслаўскага князя Ўсевалада, страшачы яго тым, што быццам Зяслаў кіеўскі маніцца пагадзіцца з Усяславам і абодва на іх нападуць. Рэзультат быў той, што Сьвятаслаў із Усеваладам пайшлі ў тым-жа годзе на Кіеў, выгналі Зяслава, каторы ўзноў уцёк да Польшчы, а Сьвятаслаў заняў кіеўскі пасад. Прымеж таго Сьвятаслаў быў князем у Кіеве, зн. да свае сьмерці ў 1076 г., Усяслаў не ваяваў ізь Кіеўшчынаю, а перад гэтым і па сьмерці Сьвятаслава ваяваў. Якой-бы шкоды не дазналі варагі Беларусі, прычына яе паходзіла ад Усяслава, у яго яе знаходзяць гісторыкі.

Паходы свае рабіў Усяслаў надзвычайна борзда. Сучасныя думалі, што ён перакідаецца ў ваўка і гэтак перабягае. Ягоныя ўдачы былі такія вялікія, што варагі ня верылі, каб іх мог мець звычайны чалавек; было перакананьне, што Ўсяслаў — чарадзей і нат радзіўся ад чараў, як запісаў летапісец. Цяжка Ўсяславу знайсьці раўню сярод вялікіх людзёў іншых народаў. Полаччына за ягонага гаспадарстваваньня дайшла найбольшае магутнасьці.

Яшчэ трохі пра Ўсяслава із «Слова аб палку Ігоравым».

У сёмы Траянавы век  
Уздумаў Усяслаў варажыць  
Аб мілай дзяўчыне сабе,  
Што з славай яго заручыць.

Пусьціўшыся ў хітрыкі ён,  
На борздага ўсеўся каня  
I скочыў, памчаўся чым сьвет  
Да Кіева-места дадня.

I кіеўскі дзідаю там  
Пасад дакрануў залаты;  
Ад іх скочыў зьверам лютым  
Зь Белгораду ў поўнач тады.

Усяслаў князь людзям суд судзіў,  
Гарадамі князёў надзяляў,  
А сам поначы сьвету на зьдзіў,  
Ваўкалакам ці воўкам гуляў.

Ён бо зь Кіева да пятухоў  
Горад Тмутаракань дасьцігаў  
I вялікаму Хорсу бяз слоў  
Воўкам шлях борзда перабягаў.

# Крыху аб гісторыі

**(Працяг)**

Складаны працэс паўстаньня Вялікага Княства Літоўскага яшчэ дакладна не дасьледаваны. Ён спалучае ў сабе шмат нявыясьненых пытаньняў, як і самы тэрмін «Літва». Праўдападобна, што зараджэньне гаспадарстваваасьці ВКЛ пачалося дзесьці на пачатку XIII стагодзьдзя. Сярэдзіна гэтага стагодзьдзя ўжо знаёміць нас з паважнай сілай гэтай гаспадарстваваай адзінкі з цэнтрам у Наваградку. На чале гэтага княства стаіць здольны гаспадар, вялікі князь Міндаўг, які княжыць дзесьці ад 1235 да 1263 году. Ён быў знаны таксама з войнаў Наваградзкага Літоўскага княства з княствам Галіцка-Валынскім, з Польшчай, крыжакамі Лівоніі і землямі сучаснае Летувы — зь гістарычнай Жмудзяй і Аўкштотай, калі яе можна так назваць. Ён быў знаны таксама з сваіх зносінаў з Рымам, з спробаў увядзеньня каталіцызму, пры дапамозе чаго ён хацеў зьнэўтралізаваць ваяўнічы дух крыжакоў, ды сваей каранацыяй на «караля Літвы». Ён загінуў у 1263 годзе падчас хаданьня за пашырэньне сваей улады ў землях сучаснае Летувы.

Да пачатку XIV стагодзьдзя ўлада наваградзкіх літоўскіх князёў абмяжоўвалася галоўным чынам да заходніх беларускіх земляў, выключаючы Піншчыну і, праўдападобна, Берасьцейшчыну. Аднак іхні паважны ўплыў адчуваўся ўжо ў Полацку, што магчыма выясьняецца супольным змаганьнем супраць крыжакоў Лівоніі. З 1265 году, ад часу «ўзьміральных» паходаў сына Міндоўга Вашэлка ў летувіскія землі, да Наваградзкага княства належаць таксама паўднёва-ўсходнія землі Летувы, ці, як іх яшчэ называлі, Аўкштота або завілейскія землі.

Аб'яднаньне ўсіх беларускіх земляў вакол ВКЛ наступае ў першай палове XIV стагодзьдзя. Гэтак Полацак уваходзіць у склад ВКЛ дзесьці на пачатку стагодзьдзя, праўдападобна ў 1307 годзе, пасьля яго вызваленьня спад часовае нямецкае акупацыі. Між 1315 і 1325 гадамі да ВКЛ прымыкаюць Турава-Пінскае і Менскае княствы. Віцебскае княства прызнае зьверхніцтва ВКЛ у 1320 годзе, з часу жаніцьбы сына Гедыміна Альгерда з дачкой віцебскага князя. З Смаленскім княствам таксама навязваецца цесны саюз абароннага характару. Фактычна Смаленск прызнае зьверхніцтва ВКЛ ад 1338 году. Аднак іхняе поўнае аб'яднаньне наступіла толькі ў 1395 годзе. Дзесьці ў палове стагодзьдзя да ВКЛ далучаюцца таксама Ноўгарад-Северскія землі.

Гэтае аб'яднаньне праводзіцца ў большасьці выпадкаў мірным шляхам, на прынцыпах фэдэрацыі, якая забясьпечвае незачэпнасьць звычаёвага права кажнай паасобнай зямлі, іхняе самакіраваньне на чале зь мясцовым князем і княжай радай, прывілеі мясцовага жыхарства да заняцьця ўрадавых пасадаў, уключна з утрыманьнем асобных вайсковых адзінак. На чале гэтае фэдэрацыі стаіць вялікі князь, які падзяляе ўладу з сваей княжай радай, што складаецца з прадстаўнікоў усіх земляў.

Дасягнуўшы гэтае кансалідацыі беларускіх земляў і пачуўшыся на сілах, ВКЛ распачынае ў другой палове XIV стагодзьдзя сваю вонкавую экспансію. На поўдні яно падпарадкоўвае ўкраінскія землі, выгнаўшы стуль Татараў, на ўсходзе яно прыпыняе набегі маскоўскіх князёў, адсунуўшы далёка свае межы і накінуўшы пратэктарат Цьверскаму і Разаньскаму княствам, на поўначы яно накідае таксама свой пратэктарат Пскову і Ноўгараду.

Аднак мы пакінем палітычную гісторыю ВКЛ збоку, прыбягаючы да яе толькі ў выпадках патрэбнасьці. Нас найбольш цікавіць нацыянальны характар гэтага гаспадарства, а таму мы займемся цяпер прасьледжваньнем і выдзяленьнем запраўдных тварцоў ягонае гісторыі.

Зусім беспадстаўна абазначаць нацыянальны характар гаспадарства па дынастычнаму паходжаньню ягоных гаспадароў. Гісторыя знае шмат выпадкаў, калі тым ці іншым гаспадарствам кіравалі выхадцы з чужых ім народаў. Аднак гэта ня прыводзіла да зьмены нацыянальнага аблічча даных гаспадарстваў. Атрымоўвалася заўсёды наадварот, калі гэта толькі ня было масавае наваднеńьне чужынцамі шляхам падбіцьця, што чужая дынастыя падпадала хуткай нацыянальнай асыміляцыі кіраванага ёй народу. Такім чынам пры абазначэньні нацыянальнага характару таго ці іншага гаспадарства трэба падыходзіць усебакова, бяручы пад увагу і гаспадарствавую мову, і культуру, заканадаўства, палітыку гаспадароў, якая заўсёды паказвае, чые яна абараняе інтарэсы. Прыгледзеўшыся такім парадкам да ВКЛ, прыходзіцца заключыць, што яно было беларускім гаспадарствам, ня гледзячы на тое, што дынастыя ягоных вялікіх князёў была праўдападобна летувіскага паходжаньня. Яна аднак абараняла інтарэсы беларускага народу і зьвязаная зь ім нацыянальна шляхам сваей канчатковай дэнацыяналізацыі. Гэтага навет ня могуць ня прызнаць гісторыкі нашых суседзяў, хоць яны падыходзяць да гісторыі ВКЛ зь іншага пункту гледжаньня. Прыкладам, польскі гісторык Вельгорскі, які магчыма найбольш за іншых уважае ВКЛ за летувіска-польскае гаспадарства, мусіў прызнаць, што факт поўнага зьбеларушчаньня летувіскіх элемэнтаў ВКЛ, і перадусім шляхты, стаўся дзякуючы палітыцы вялікіх князёў, праводжанай на працягу двух стагодзьдзяў, пачынаючы ад Міндаўга і канчаючы Вітаўтам. Ён адзначае, што «вельмі цікава сьцьвердзіць той факт, што імпэрыялістчныя пляны Вітаўта базаваліся ў сэньсе этнічным і культурным на рускай (чытай на беларускай) праграме і ў ніякім выпадку на праграме этнічнай Літвы (чытай Летувы)». Гэта самае сьцьвярджае і расейскі гісторык Любаўскі, адзначаючы, што ў ваб'едналым Беларуска-Летувіскім гаспадарстве беларуская стыхія перамагла на працягу XIV стагодзьдзя. «Гаворачы коратка, — сьцьвярджае ён далей, — Вялікае Княства Літоўскае становіцца ў XIV стагодзьдзі больш чым у XIII характэрным рускім (чытай беларускім) гаспадарствам, у якім пануючы палітычна народ быў пераможаны духовай і культурнай перавагай падбітага ім народу».

У вадным ня можна пагадзіцца з гэтымі сьцьверджаньнямі, а пайменна з пастаноўкай пытаньня паступовай асіміляцыі, прытым культурнай, чужой народу і адзінай палітычнай сілы. Ведама, гэта выцякае з канцэпцыі аб збройным заваяваньні Беларусі Летувісамі, што аднак адкідаецца прызнаньнем поўнай дэнацыяналізацыі гэтай «адзінай палітычнай сілы».

**(працяг будзе)**

**П. Залужны**

# Крыніцы ды ня тыя

Савецкая літаратура загнаная ня толькі ў вузкое кола казённай тэматыкі, але й абавязкавага казённага ура-патрыятызму. Жыцьцё, як запраўдная крыніца творчасьці, апынулася пад заслонай. Пісьменьнік мае натхняцца партыйнай дырэктывай, да якой падганяецца рачаіснасьць. Вось чаму савецкая літаратура, як адзяржаўленая прадукцыя, гэткая аднастайная й блеклая, бо выраб ляецца яна, нібы той шырспажыў, паводля адзінага й абавязкавага стандарту, вымаганага чароднай партыйнай пастановай.

Гэткім стандартным зьяўляецца апошні раман Івана Шамякіна «Крыніцы». Сярод паваенных аўтараў Шамякін найбольш вылучыўся. Сяньня ён належыць да афіцыйна паважаных у БССР. Характэрная асабліваасьць гэтага найбольш пладнага аўтара ў тым, што ён заўсёды адзін зь першых падае водгалас на розныя партыйныя дырэктывы, ня вельмі турбуючыся пра мастацкую культуру й моўную чысьціню свайго пісьма.

«Крыніцы» напісаныя на вельмі пашыраную, бо загаданую, сяньня тэму, выкліканую пастановай пленуму ЦК пра ня першае ўжо г. зв. умацаваньне калгасаў. Мэта раману, як і падобных твораў іншых аўтараў, вычэрпваецца прапагандай згаданай пастановы. Гэта й абумовіла ўвесь характар пісьма, расстанову пэрсанажаў аж да імкненьня атоесаміць партыйную лінію з крыніцамі народнага жыцьця, берагчы чысьціню якіх заклікае юнакоў стары настаўнік перад сваёй сьмерцяй.

Пра раман можна сказаць словамі аднаго пэрсанажу: «Як мала ... жыцьця й як многа прапісных ісьцін, афіцыйнасьці й непатрэбнай параднасьці». І запраўды. Пэрсанажы раману адно й занятыя тым, што захапляюцца партыйнай пастановай, якая адпаведна апошняй палітычнай модзе воклічна называецца — «Вось яна калектыўная мудрасьць партыі» ды ўжыцьцяўленьне якой, нарэшце, нібы ашчасьлівіць людзей. Што да шчасьця дык яно вельмі-ж сьціплае, але гэткае характэрнае для савецкай рачаіснасьці — «цяпер з хлебам будзем», як кажа адна калгасьніца. Паказальным зьяўляецца такі проста вылучны факт: на саракавым годзе дыктатуры, якая няўпынна выхваляецца рознымі дасягненьнямі, усе творы на калгасную тэматыку зыходзяцца на будзённым пытаньні хлеба й сякога-такога чалавечага дабрабыту.

Сваім партыйным пасланцом на вёску Шамякін навет дае прозьвішчы паводля адведзенаму ім прызначэньню, як Лемяшэвіч ці Валатовіч: яны маюць пераараць запушчанае, выцягнуць загразлае. Жывога чалавека заступіла старанна выпісаная схэма партыйнага разанэра, які гаворыць штампамі з блякноту агітатара, прыкладам — «высокае званьне камуніста» ці «які гэта высокі й пачэсны пост — партыйны кіраўнік».

У стылі казённага маралізаваньня разважаюць усе пэрсанажы пра тое, хто каго не дарабіў ці не дагаварыў, збочыў ад партыйнай лініі ці, абдораны ёй, знайшоў сваё месца ў жыцьці. Жахліва аднастайны й нудны гэты сьвет, у якім людзі ходзяць па загадзе начыркнутых для іх лініях. Ён і створаны не як выяўленьне індывідуальнай мастацкай задумы, а дзеля тэндэнцыйнай ілюстрацыі заўсёды аднолькавага газэтнага штампу, якім паслугуецца й Шамякін, як галоўнай тэзай да раману: «зьявіліся рашэньні партыі, якія ўскалыхнулі ўсю краіну, выклікалі вялікі патрыятычны рух». Ці не таму й раман напісаны ў зацьмелым газэтным стылі. Навет моладзь, выпускнікі сярэдняй школы — «гэтыя разумныя й дасьціпныя юнакі й дзяўчаты», як атэстуе іх аўтар, ня прыносяць асьвяжальнага подыху ў раман, бо й яны дыхаюць тэй-жа атмасфэрай павучальнасьці й палітыканства.

Шамякін ня любіць глыбіннага жыцьцёвага разнагалосу, асабліва ў народных пластох, старанна мінаючы паказ усяго таго, што магло-б парушыць усхваленьне партыйнай дырэктывы. Пісьменьнік згадвае пра посьвіст ветру ў калгасным кароўніку, але ён мінае гэты посьвіст у штодзённым жыцьці працавіка-калгасьніка ды неяк між іншага праз аднаго пэрсанажа заўважае — «а пшанічка дрэнь».

Галоўныя гэроі раману — гэта кіраўнікі, а ня тыя, хто мае хлеб здабываць. Іхныя слоўныя дыскусыі якраз і становяць афіцыйны бок жыцьця ды лёгка здымаюцца, пераахварбоўваюцца пры зьяўленьні чароднай партыйнай інструкцыі. Вось чаму ў рамане ўсё лёгка, пасавецку гарманійна зуладжваецца, як і належыцца для ілюстрацыйнай прапагандовай аднадзёнкі з партыйнай прыправай.

Савецкая крытыка, выконваючы афіцыйнае заданьне, залічыла Шамякінаў раман да лепшых твораў пра калгасную вёску. І гэта найлепш сьветчыць пра страшэннае запусьценьне савецкай беларускай літаратуры, якая ня можа жывіцца чыстымі народнымі крыніцамі, бо ейны сьвет замкнуўся на вымаганым і адзіна дазволеным складаньні гімнаў рэжыму.

**Алесь Беразьняк.**

# Гісторыя зь „гісторыяй беларускага тэатру"

Гэта вельмі старая гісторыя. Інстытут Літаратуры і Мастацтва Акадэміі Навук БССР, сэктар мастацтва, нарэшце абвесьціў разам зь Беларускім тэатральным таварыствам заклік зьбіраць матар'ялы да гісторыі дарэвалюцыйнага беларускага тэатру. Ён навет вызначыў праграму гэтай дзейнасьці: тэксты беларускіх п'есаў, тэатральныя афішкі, праграмы паказаў, фотаздымкі сцэнаў із спэктакляў, асобных актораў, эськізы дэкарацыяў, батлейкі і лялькі, успаміны пра дзеячоў тэатру, тэатральныя гурткі і вечарыны слаўнага тэатральнага дзеяча нашаніўскага часу Ігната Буйніцкага і гэтак далей. Цікава тое, што як Інстытут Літаратуры і Мастацтва, так і Тэатральнае Таварыства трацяць памяць і робяць выгляд, што нібыта яны ўпяршыню запачаткавалі гэтую справу.

Праўда — рэч упартая і ніякае ілжы ня церпіць. А факты-ж гавораць аб іншым. Яшчэ ў сярэдзіне 20-х гадоў мастацкая сэкцыя Інстытуту Беларускай Культуры была стварыла тэатральную падсэкцыю на чале зь беларускім драматургам Язэпам Дылаю (Бываеўскім). Гэтая сэкцыя вывучала гісторыю беларускага тэатру і зьбірала розныя матар'ялы зь гісторыі беларускае батлейкі. Тады-ж былі знойдзены драматычныя творы шмат якіх малаведамых беларускіх драматургаў — Грымоты, Ядвігіна Ш., Каруся Каганца ды іншых. Было запісана шмат невядомых тэкстаў беларускае батлейкі, што захавалася ў народнай памяці аж да нашых часоў.

Уся гэтая праца, на добры лад, магла прычыніцца да стварэньня сапраўднае навуковае гісторыі беларускага тэатру мінулых вякоў і бліжэйшага дарэвалюцыйнага часу. Але гэтаму ня суджана было збыцца. На пачатку 30-х гадоў вынікі гэтае шматгадовае навукова-дасьледчае працы былі абвешчаныя нацдэмаўскімі, контррэвалюцыйнымі, а сам кіраўнік гэтае працы Язэп Дыла быў арыштаваны і засуджаны на 5 гадоў выгнаньня.

Разгром навуковых кадраў Акадэміі Навук у Менску ў выніку бясконцага «выкарчоўваньня» варожых элемэнтаў спаралізаваў усю працу ў справе стварэньня гісторыі беларускага тэатру. Афіцыйна гэтая праца ня спынялася, але па сутнасьці яна зыйшла на нішто, бо ніхто ўжо пасьля бальшавіцкага разгрому беларускіх нацыянальных кадраў не адважваўся прадаўжаць тое, што было абвешчана контррэвалюцыйным і пагражала кажнаму дасьледчыку і стваральніку нацыянальнае культуры турмой і выгнаньнем.

Ішлы гады за гадамі. Перад вайной крыху ўзнавілася праца ў справе збору матар'ялаў тэатру. Але пасьляваенная ждана ўская рэакцыя раптам спыніла яе. Ізноў пачалася духовая няволя.

Калі-ж такія драматургі, як Карусь Каганец, Ядвігін Ш. ды іншыя былі абвешчаныя варожымі савец-

Заканчэньне на 4-ай бачыне

Таму ў Полацку рана званы  
Пазванілі ў Сафіі сьвятой  
Да заютрані, — ён-жа праз сны  
Ужо у Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа  
У дзёрзкім целе ягоным была,  
Але часта бяды без нажа  
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян  
І прыпеўку дасьціпна зглажыў:  
«Хітры, быстры, ні птах той быстран  
Суду Божага ня пераждыў:»

З гэтых песьняў «выцінаюць у чытача радкі, характарызуючыя барзьдзіню дзеяньняў Усяслава, ягоную рухлівасьць, кідлівасьць, прадпрыемлівасьць. Гэтая барзьдзіня дайшла да нас у рэзкіх лініях, у вадных дзеясловах і імёнах, бязь сьветлаценьня і колерных пераходаў ... «Ахінуўся сіняй імглой», «адпёр браму», «разьбіў славу», «скочыў», «пусьціўся на хітрыкі», «дакрануўся»[16]).

«Посьле абраза «малацьбы» на Нямізе ў «Слове аб палку Ігаравым» маем дальшы імклівы агляд надзвычайнай свае энэргіяй дзейнасьці Усяслава. Ранейшая маланкавасьць заменена некаторай памальнасьцяй: «людзям суд судзіў, гарадамі князёў надзяляў ... ваўкалакам гуляў ... ваўком шлях перабягаў ...» Абразы лагаднейшыя, хоць таксама адбіваюць жаданьне дзейнасьці і ўлады. Усяслаў, як яго рысуе старая песьня, усюдых пасьпяваў і ўсё чуў»[17]).

«Радкі, пасьвячаныя Ўсяславу летапісам, даволі зыркія, каб сьветчыць пра тое надзвычайнае даймо, якое пакінуў па сабе гэты князь у памяці сучасьнікаў і патомкаў. У народным уваб ражэньню быў элемэнт бяссумлеўнага зьдзіваваньня зь ягонае энэргіі і гаспадарствавага розуму. Яно адбілася ў песьні: «людзём суд судзіў, гарадамі князёў надзяляў ...» І ў летапіс і ў «Слова» запалі адно нячысьленыя іскры таго полымя, каторага адблескам ірдзела ягоная слава. Маем дапусьціць, што гэтая слава была галосная нат у канцы XII стг., калі песьні пра яго яшчэ не замоўклі. Відавочна, у песьні пра Ўсяслава зробленыя былі пры складаньні «Слова» такія скарачэньні, якія пакінулі адны напамінкі на тое, што магло быць ведамае чытачом із жывое яшчэ традыцыі»[18]).

**Ларыса Геніюш**

## КНЯЗЬ УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Серп месяц на небе між хмараў брыдзе  
Між семені зор адзінокі;  
Вось, быццам гуляе шчупак на вадзе,  
Ныраючы ў хвалях глыбокіх.

Арол так узьбіўшысь пад воблакаў сінь,  
Магутны сваёй адзінотай,  
Аб шэрай нізіне забудзе сусім,  
Паднебным упіўшыся лётам.

У кіеўскім замку Ўсяслаў Чарадзей  
Змагаецца з духам бурлівым  
І ўздых гладзінёю калыша грудзей,  
Бы вецер насьпелаю нівай.

Ён думаў ня можа цяжкіх усаніць,  
Тугі свае ўцешыць па краю;  
І гордае князева сэрца баліць,  
Ды сон ад вачэй адлятае.

Зь вязьніцы смутнай на княжы пасад  
Увесь яго Кіеў паклікаў —  
Ён, усё-ж, з панаваньня ні з волі ня рад —  
Ня хоча тэй чэсьці вялікай.

Мілейшыя сэрцу парогі свае,  
Пасад свой і тыя дружыны,  
Зь якімі хадзіў у цяжкія баі,  
Бароначы межы айчыны.

Мілейшы той Полацкі край дарагі  
І пушчы з пахнючай жывіцай ...  
Нядаўна Нямігі ціхой берагі  
Крывёю зьліліся крывіцкай.

Там мужных ваякаў ляжаць чалясы —  
Хто-ж згоіць крывіцкія раны,  
Тады, калі князь, першы Полацку сын,  
Чужацкія носіць кайданы?

І хоць над Нямігай склыка груганоў  
Ня раз-жа зьляталася ў госьці —  
Ўсё-ж князева сэрца начамі дамоў  
Ўсё-ж клічуць байцоў сваіх косьці.

Ужо цемень радзее, ўжо зоры ўцяклі  
І зьнік бляды месяц за імі —  
Князь усё яшчэ чуе зямлі свае кліч,  
Ды з думкамі б'ецца цяжкімі.

Ён чуе як рвецца Дзьвіна ў берагох,  
Бароў сваіх гоман спрадвечны,  
Ён чуе, як у Полацкіх гордых мурох  
Шуміць ўсхваляванае веча.

Цьвіце ужо неба, як тыя ляны,  
І днее над Кіевам сіне,  
Князь слухае сэрцам — б'юць, звоняць званы  
У полацкай роднай сьвятыні.

Ня дарма казалі, што князь-чарадзей ...  
Хто-ж духам прабіўшы прасторы,  
У Кіеве чуў-бы, як звон свой гудзе,  
Хто-б знаў, што ён сэрцу гавора?

Вялікае сэрца мець трэба ў грудзёх  
І духа магутныя чары,  
Каб чуць, як у полацкіх гордых мурох  
У звон сьвятой Софіі ўдарыць.

---

15) П.С.Р.Л. I, 2-ое выд., Л. 192), б. 172.  
16) Е. Ляцкий, цыт. праца, б. 92.  
17) Там-жа, б. 93.  
18) Там-жа, б. 91.

*Кнігапіс*

# Новае навуковае выданьне

**Праф. Мікола Кулíковіч, Беларуская савецкая опэра, выд. Інстытуту для Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1957, 126 бач.**

Маем тут перад сабой новую працу ведамага беларускага кампазытара й музыкалёга праф. М. Куліковіча. Да гэтага часу ў беларускіх выданьнях Інстытуту для Вывучэньня СССР зьявіўся ўжо цэлы рад вельмі цэнных і цікавых артыкулаў праф. М. Куліковіча, як у беларускай мове так і ў ангельскай, якія, на нашу думку, мусілі быць вельмі прыхільна ўспрынятыя чытачамі, з гледзішча на важнасьць тэматыкі, распрацоўванай аўтарам.

Мыляюцца тыя, якія думаюць, што музыка, тэатр, опэра, наагул мастацтва, у жыцьці нацыі зьяўляюцца катэгорыямі ня то што другараднымі, але й наагул малаважнымі. Бальшавікі-ж, якія больш за ўсіх прыдаюць значэньня аспэкту чыста матар'яльнаму, лікам і працэнтам дасягнутае вытворчасьці матар'яльных прадуктаў, усё-ж добра зразумелі, мо лепш чымся хто, значаньне мастацтва, а ведаючы ягоную сілу ўзьдзеяньня на чалавека, пастанавілі ў максымальнай ступені выкарыстаць яго ў сваім паходзе да заваладаньня людзкімі душамі.

Ужо выходзячы з таго, што для бальшавікоў мастацтва — гэта не сяродак духовага дасканаленьня, а сяродак для выкарыстаньня чалавека, мы ня можам задаволіцца тым, што яны нам расказваюць аб стане мастацкае дзейнасьці й дасягненьнях у сяньняшняй БССР. Самыя лікавыя ці працэнтавыя дадзеныя аб «дасягненьнях» у гэтай галіне нічога яшчэ не гавораць. Запраўднае мастацтва нельга ўкласьці ў графікі, пляны, лікі, працэнты.

Вось дзеля гэтага праца праф. Куліковіча мае сяньня асаблівае значаньне, бо яна — вынік дасьледваньняў незалежнага, вольнага ад усялякіх догмаў і ня зьвязанага ніякімі партыйнымі нормамі ці «лініямі», музыкалёга.

Адразу-ж адцемім, што мэта гэтага агляду — гэта ня крытычны аналіз дадзенае працы праф. Куліковіча, а толькі агульнае азнаямленьне зь ёй нашых чытачоў.

У сваім уступе да працы аўтар парушае адно важнае пытаньне: пачатак беларускае опэры. Гэтае пытаньне набывае прынцыповага значаньня, калі возьмем на ўвагу, што бальшавікі даводзяць, быццам-бы беларуская опэра паўстала толькі ў гады савецкай улады. Аўтар разьбівае савецкае прапагандовае цьверджаньне, прыводзячы на довад аб'ектыўныя факты, зь якіх выразна відаць, што беларускае опэрнае мастацтва мае ўжо больш за стогадовую традыцыю; самыя-ж вытокі беларускай тэатральна-сцэнічнай культуры мы знаходзім яшчэ ў старадаўным беларускім народным мастацтве, якое высока ацэньваецца навет і савецкімі навукоўцамі.

Самая праца складаецца зь дзьвёх частак: 1) Опэрная творчасьць беларускіх савецкіх кампазытараў, 2) Беларускі дзяржаўны опэрны тэатр і ягоная праца над беларускай опэрай.

Разглядаючы опэрную творчасьць і дасягненьні ці няўдачы ў ёй беларускіх савецкіх кампазытараў, палітычныя ўмовы іхнае працы ды зыгзакі «генэральнае лініі», да якое былі забавязаныя падраўноўвацца кампазытары, а таксама цэлы шэраг фактараў, што ў той ці іншай меры мелі дачыненьне да опэрнай творчасьці, аўтар падзяляе савецкі пэрыяд гэтае творчасьці на тры адрэзкі: а) беларуская опэра ў часе станаўленьня савецкае опэры наагул (1921—36 гг.), дзе разглядаецца ейны імпэтны, хоць і кароткі, росквіт ды зьнішчэньне яе партыйнымі дырэктывамі ў часе «сацыялістычнага наступу»; б) беларуская опэра на шляху асваеньня савецкай опэрнай клясыкі (1936—41 гг.), адрэзак, цэнтральным мамэнтам якога была першая дэкада беларускага мастацтва ў Маскве; в) сучаснае становішча беларускай савецкай опэры (1941—56 гг.), адрэзак, у які ўваходзіць опэрнае мастацтва пэрыяду вайны, новага пасьляваеннага «сацыялістычнага наступу», другая дэкада беларускага мастацтва ў Маскве.

Разглядаючы апошні адрэзак опэрнае творчасьці, аўтар коратка адзначыў дасягненьні беларускіх кампазытараў у гэтай галіне творчасьці за часоў нямецкай акупацыі. Аўтар падчырквае, што ня гледзячы на жахлівыя ваенныя й акупацыйныя ўмовы, у гэтым часе беларускія кампазытары далі запраўды паважны ўклад ў беларускую музычную культуру.

Заканчваючы першую частку свайго дасьледваньня й падчыркнуўшы што ў «беларускай опэрнай творчасьці існуе вельмі цяжкі й глыбокі, зацяжны крызіс, які мяжуецца з разлажэньнем, поўным упадкам, катастрофаю...», аўтар задае пытаньне: «Дык вось як-жа пры такой сытуацыі можна знайсьці ў беларускіх опэрах што-колечы дадатняе?» І аўтар гэтае дадатняе знаходзіць. Гэта перадусім фальклёрная аснова беларускіх опэраў, прысутнасьць якое ў творы ўжо стварае каштоўнасьць. Далей аўтар піша: «Прыгадваючы ўсю опэрную творчасьць беларускіх кампазытараў, можна з задаваленьнем канстатаваць, што яна даволі ўпарта хоча йсьці **сваімі шляхамі** й што, ня гледзячы на сорак год савецкае ўлады, **працэс саветызацыі опэрнай творчасьці ў БССР яшчэ далёкі ад завяршэньня.** Навет опэры, зробленыя ў часы сацыялістычных наступаў і партыйных націскаў, савецкімі можна назваць толькі часткова. Таму, калі, наагул, ужываць паняцьце савецкай опэры ў БССР, дык гэтую крытэрыю трэ' разумець больш у аспэкце тэрытарыяльным, а не ў ідэйна-творчым».

У другой частцы працы аўтар разглядае нараджэньне й творчую эвалюцыю беларускага опэрнага тэатру, мастацкае жыцьцё тэатру й яго працаўнікоў, узаемадачыненьні між тэатрам і кампазытарамі, фармалізм і бюракратызм у гэтых дачыненьнях. Дзейнасьць беларускага опэрнага тэатру храналягічна аўтар падзяляе на наступныя этапы: 1) станаўленьне тэатру, ягоная перадгісторыя — 1920—1927 гг.; 2) уступ у самастойнае жыцьцё — 1927—39 гг.; 3) першае асваеньне беларускага опэрнага рэпэртуару, І-ая дэкада беларускага мастацтва — 1939—41 гг.; 4) тэатр на эвакуацыі ў часе вайны — 1941—44 гг.; 5) зварот на Беларусь і далейшыя спробы стварэньня беларускага рэпэртуару — 1944—54 гг.; 6) ІІ-я дэкада беларускага мастацтва — 1954—55 гг.; 7) сучаснае становішча тэатру (пасьля дэкады) — 1955—56 гг.

Разгледзеўшы цэлы шэраг няўдачаў беларускага опэрнага тэатру ў яго працы над беларускай опэрай, няўдачаў, прычынай якіх, бязумоўна, у першую чаргу самая савецкая рэальнасьць, аўтар асабліва падчырквае вялікую небясьпеку для беларускае опэры — русыфікацыю на ўсіх яе адрэзках, а гэтым самым затрату нацыянальнага аблічча.

З другога-ж боку, аўтар адзначае наяўнасьць супраціву беларускіх опэрных кампазытараў у дачыненьні да афіцыяльнай партыйнай лініі, які праяўляецца ў шуканьні нацыянальных сюжэтаў і вобразаў, у насычаньні творчасьці элемэнтамі народнага мастацтва, у імкненьні трымаць сувязь з гэтым мастацтвам. Такім чынам, ня гледзячы на ўсе маскоўскія нівэляцыйныя намаганьні, усё-ж у савецкім беларускім опэрным мастацтве захоўваюцца пэўныя элемэнты беларускага нацыянальнага музычнага стылю, якія ў умовах свабоды творчасьці могуць адыграць не малую ролю.

Уся праца праф. Куліковіча насычана цікавым фактычным матар'ялам ды зраджае аўтара ня толькі як дасьледніка гэтае галіны музычнае культуры, але й як глыбока заангажаванага ўдзельніка яе. Гэтае дасьледваньне запоўніла адзін із шматлікіх прабелаў у беларускай тэматыцы. Бязумоўна, аўтар кніжкі не прэтэндуе на вычарпальнасьць тэмы, тым ня менш, праца будзе мець вялікае значаньне ня толькі для нас, але й для чужынцаў, што цікавяцца й студыююць пытаньні беларускае культуры.

І, урэшце, як ужо няраз пісалася пра выданьні Інстытуту, шкада, што такая праца выдадзена на ратататары. А яшчэ было-б лепш, каб падобныя манаграфіі выдаваліся ня толькі друкам, але і ў ангельскай ці ў іншай з галоўных моваў Захаду.

**А. Г.**

# Зь беларускага жыцьця

### ЗАКАНЧЭНЬНЕ ШКОЛЬНАГА ГОДУ Ў КЛЫЎЛЭНЬДЗЕ

Беларуская нядзельная школа ў Клыўлэньдзе (ЗША) 22-чэрвеня гг. закончыла 1956/57 школьны год. Гэтае здарэньне было адзначана ўрачыстасьцяй, на якую сабраліся вучні, бацькі, настаўнікі ды актыў калёніі.

Ужо пасьля пятае гадзіны папаўдні вучні ажывілі атмасфэру ў двары й доме сп. Лукашэвіча, дзе мела адбыцца заканьчэньне. Яны, як і заўсёды, у беларускай нацыянальнай вопратцы, гулі, радзіліся й чакалі на свае вынікі й урачыстасьць.

А сёмай гадзіне сп. Кіслы адчыніў урачыстасьць, просячы сп. Каханоўскага сказаць колькі прынагодных слоў да бацькоў і вучняў. Сп. Каханоўскі гаварыў аб заданьнях нашае эміграцыі, аб значэньні новае зьмены для яе на будучыню ды падчыркнуў важную ролю роднае школы для беларускіх дзяцей на чужыне. Да вучняў сп. Каханоўскі зьвярнуўся, каб на чужыне стараліся пазнаць і сабраць усё добрае, што некалі яны змаглі-б засеяць на Беларусі.

Мастацкая частка ўрачыстасьці была вельмі багатая колькасьцяй нумароў. Апрача песьняў, музыкі ды танцаў, амаль кажны з вучняў даваў свой нумар — гэта былі пераважна дэклямацыі вершаў. Праграмай кіравалі настаўнікі. На заканчэньне мастацкай часткі вучні ўручылі падарак спадарычні Мані Лук'янчык у знак удзячнасьці за навучаньне іх танцаў.

Галоўным момантам было разданьне вучням пасьветчаньняў. У ганаровы прэзыдыюм былі запрошаныя а. М. Макарэвіч, сп. Каханоўскі й сп. Калоша. Яны-ж і ўручылі пасьветчаньні вучням.

Падзякваўшы ўсім удзельнікам, сп. Кіслы закрыў урачыстасьць. На дарогу Жаночае Згуртаваньне частавала вучняў і зь імі гасьцей рознымі прысмакамі.

Назаўтра, у царкве, а. Міхаіл адслужыў малебен з нагоды заканчэньня школьнага году, дзе ўсе вучні прынялі ўдзел.

**В. Шчэцька**

# Гісторыя зь „гісторыяй беларускага тэатру"

**(Заканчэньне з 3-яй бач.)**

кай уладзе і выкінутыя зь гісторыі беларускае літаратуры, сталася немагчымым ствараць аб'ектыўную гісторыю беларускага тэатру. Гэтакая-ж самая доля лучыла і знанага пісьменьніка і драматурга нашаніўскае пары як Ўладыслава Галубка. Пазьней тое-ж самае сталася і зь Цішкам Гартным. Навет купалаўскія драматычныя творы былі ў свой час напалову забароненыя. Такім чынам, як бачым, зь гісторыі беларускага тэатру выкідалася ўсё найлепшае, нацыянальна вартаснае. Гэтак была абрэзаная і схвальсыфікаваная гісторыя беларускага тэатру.

Як-жа ўсё гэта выглядае сяньня? Як і дагэтуль, бальшавіцкая крытыка залічвае Ядвігіна Ш., Каруся Каганца і некаторых іншых беларускіх драматургаў да буржуазных нацыяналістых. Імя слаўнага беларускага драматурга і стваральніка Першага Народнага Вандроўнага Тэатру на Беларусі Ўладыслава Галубка ня згадваецца ў ліку рэгабілітаваных. Ня згадваецца ні Максім Гарэцкі, ні Міхась Зарэцкі.

Сяньняшнюю гаворку аб стварэньні гісторыі беларускага тэатру нельга ўважаць за сур'ёзную — яна хвальсыфікавалася і будзе хвальсыфікавацца да таго часу, пакуль уся гэтая вялікая справа будзе знаходзіцца пад наглядам і кіраўніцтвам камуністычнае партыі.

Так выглядае гісторыя зь «гісторыяй» беларускага тэатру.

**М. К.**

### АДОЗВА

**Царкоўная Рада новаадкрытага мною прыходу Жыравіцкае Божае Маці ў Пэрт (Аўстралія), пастанавіла збудаваць собскую царкву. З увагі на тое, што гэта мае быць першая собская Б.А.П. Царква ў Аўстраліі, зьвяртаюся да ўсіх Беларусаў ахвярна дапамагчы ў так важнай падзеі на нашай царкоўнай ніве.**

**Ахвяры прашу высылаць на адрас:**
**A. Maroz, 109 Morrison Rd.,**
**Midland Junction, W. Australia.**

**Аўстралія,**

**† Архіяпіскап Сяргей**
**Галава БАПЦ**

### ПОШУКІ

**Ян Раманоўскі** шукае сваіх сыноў **Браніслава** (нар. 1923 г.) і **Канстантына** (нар. 1926 г.). Весткі просіцца слаць на наступны адрас:

J. Romanowski,
97 Keymer St.,
Belmont,
W. A. Australia.

# Небясьпечная прынада

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

ных выпрабаваньняў была-б для яго бяссумлеўна выгаднай. Ня зьвязаны маральнымі прынцыпамі й дэмакратычнай кантроляй, Крэмль напэўна-б працягваў разьвіцьцё атамнай зброі, памнажаючы запасы яе, у той час, як атамная магутнасьць Захаду была-б фатальна замарожанай.

Для амэрыканскага народу Атамная Заслона зьяўляецца вялізарным цяжарам. Спакуса зьменшыць яе бадай непераадольная. Але пакуль галоўнае каманданьне сусьветнага камунізму ў Маскве ня дасьць нязьбітага доваду, што яно адмовіцца ад заваяваньня сьвету, вольнаму сьвету не застаецца нічога іншага, як толькі **ўзмацняць** гэтую Заслону. Будучы ззаду ў бадай усіх іншых відах зброі, мы ня маем ніякай іншай здаровай альтэрнатывы.

Такім довадам можа быць толькі вывад савецкага войска з маскоўскіх калёніяў, пачынаючы ад Вугоршчыны і Ўсходняе Нямеччыны. Небясьпека далейшых атамных выпрабаваньняў зусім рэальная, але крамлёўскія валадары балюча навучылі нас, наколькі большым было-б наша няшчасьце, калі-б мы папаліся ў іхнае сільлё.

*Фэльетон*

# *Кур'ёзы*

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»)**

Добры дзень, даражэнькія! Ізноў я да вас із сваімі кур'ёзамі, каб трохі пацешыць ды павесяліць. Што вы, напрыклад, скажаце, браточкі, пра бээсэсрраўскае міністэрскае кіраўніцтва? І дзе яны толькі выкопваюць людзей з гэтакімі прозьвішчамі. Вось толькі падумайце. Савет Міністраў БССР вызначыў першым намесьнікам міністра саўгасаў **ГАЛАДУШКУ.** Лепшага прозьвішча, каб і хацеў, дык ня прыдумаеш. Тут вам і агульны сымбаль, тут і ідэя, тут і практыка. Галадушка — і ўсё ясна і зразумела.

— Як там у вас? — спытаецца, скажам, які-небудзь грамадзянін у беларускага саўгасьніка. Ну, той, гэтак сур'ёзна і адкажа: — У нас, братка мой — **галадушка!**, хіба ня ведаеш?

І вось другім заступнікам таго-ж самага міністэрства саўгасаў Савет Міністраў БССР вызначыў **ПЯТУХОВА.** Вельмі зручна!... Галадушка даражэнькія мае, будзе, значыцца, камандаваць, вучыць, а Пятухоў — кукарэкаць пра перавыкананьне плянаў, графікаў, сяўбы, пагалоўя жывёлы і іншае безгалоўе... Якраз, як у тэй дзіцячай казачцы:

— Галадушка зь Пятухом
Бараніў саўгасны дом!

Да гэтай шайкі прыладаваў Савет Міністраў БССР і таварыша **БАЯНОЎСКАГА,** вызначыў яго міністрам паліўнай прамысловасьці. Ведама, любыя мае, што **баяны** даўняга часу былі ўлюбёнымі мастакамі беларускага народу, пра іх чыталі мы яшчэ ў ведамым «Слове аб палку Ігаравым». Чыталі і дзівіліся, як клаў той баян на струны рукі свае, пальцы якіх белымі лебедзямі разьбягаліся па гусьлях, ды салаўём ракатаў славу нашага народу. Але што там той старавечны беларускі баян? Бальшавікі, казаў той, пераплюнулі ягоныя ракатаньні салаўіныя. Таварыш Баяноўскі хваліцца на ўвесь сьвет, што беларускую драўніну ён на экспарт выробляе і гоніць яе ў сьвет, за сьцены зялезнае заслоны. Можа! І няма нічога дзіўнага. Рукамі здольнага Беларуса зробіш, што хочаш. Дзіўна іншае, браточкі мае, — тое, што Беларусы ня маюць з чаго хатаў рабіць сабе: няма ніякай драўніны...; клюбы скардзяцца, што няма мэблі, што клюбнаму гледачу трэба з хаты зэдлік саматужны несьці, бо сядзець няма на чым; жыхары ў гарадох гэтую зіму сядзелі бяз паліва, навет у школах паліва ня было, — у польтах і хустках лекцыі слухалі. Вось вам і Баяноўскі, салавей бальшавіцкага часу ў міністэрскай пасадзе, з тоўстым, як сам, адказным партфэлем у руках!...

Але гэта яшчэ ня ўсё. Намесьнікам міністра прамысловасьці мясных і малочных вырабаў Савет Міністраў БССР вызначае нязломнага, стальнога таварыша **ПЕРАПЕЧКУ.** Факт! Перапечка такі спрыт мае у нарошчваньні мяса і перадоях малака, што адразу дагоніць і перагоніць Амэрыку... Дагэтуль, як самі ведаеце, Беларусы толькі на чорным рынку малако і мяса бачылі, а цяпер, пры Перапечцы ня будзе чаго перапячы і ў печцы... І ў мяне міжвольна зрываецца зь языка словы парады:

Вы міністра Перапечку
На чарэнь укіньце ў печку!

Маю надзею, любыя мае, што, як і я сам, згодзіцеся із словамі маладога беларускага паэты, які, хоць і парасейску, але добра выказаў думку:

«Острым пером бюрократов, дзельцов
Колите в кровь их и в жилы!»

Газэце «ЗВЯЗДА» гэты верш не спадабаўся, а мне да самай душы прыпаў. А як вы самі, даражэнькія, думаеце пра гэты верш і ўсе савецкія кур'ёзы ў Беларусі?

Да наступнага разу, мае любыя!

**Травень**

# Увага! Увага!

**У Выдавецтве «Бацькаўшчыны» выйшлі асобнай кніжкай і ўжо прадаюцца**




**Кніжка выдадзеная вялікім форматам, у прыгожай каляровай вокладцы, на добрай люксусовай паперы і абыймае 215 бачынаў друку. Кніжка складаецца з двух разьдзелаў: 1. «Народныя казкі», які зьмяшчае 23 беларускія народныя казкі ў іхным арыгінальным выглядзе, 2. «Казачныя матывы ў літаратурным апрацаваньні», які абыймае 25 вершаваных і празаічных твораў ведамых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, аснованых на фальклёрных матывах. У кнізе зьмешчана 75 ілюстрацыяў да паасобных казак, выкананых беларускімі мастакамі на эміграцыі й выкарыстаных зь беларускіх выданьняў у БССР.**

**Цана кнігі 3 амэрыканскіх даляры ў мяккай папяровай вокладцы і 4 амэрыканскія даляры ў цьвёрдай палатнянай вокладцы. У краінах, паза ЗША і Канадай, іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Купляць і выпісваць беспасярэдна з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны», а такжа з нашых Прадстаўніцтваў.**

**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ — — ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**